

Навіны Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»
Выдасцца са сьнежня 1988.
Спэцыяльны выпуск
Цана 25 кап.

# «ХТО АД НАРАДЖЭНЬНЯ БЯЗ СОРАМУ, ТАМУ НЯ ВЫПРАВІЦЦА»



Фота з архіву В.Дубінкі

## Спроба путчу не ўдалася, але ўсе праявілі сябе

### ТАТАЛІТАРЫСЦКІ ПРЫЁМ ЗАХОПУ ЎЛАДЫ

**Заява народных дэпутатаў БССР ад Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце БССР**

У ноч з 18 на 19 жніўня г.г. у Маскве шэрагам асобаў, якія займаюць адказныя дзяржаўныя пасады Саюзу ССР зроблена спроба дзяржаўнага перавароту. Гэтая спроба парушае арт. 127³ п.15 дзейнай Канстытуцыі СССР і арт. 12 Закону Саюзу ССР «Аб прававым рэжыме надзвычайнага становішча». Згодна з гэтымі заканадаўчымі актамі, Прэзідэнт Саюзу ССР можа абвяшчаць надзвычайнае становішча ў асобных рэгіёнах СССР толькі са згоды адпаведных органаў дзяржаўнае улады рэспублік «у інтарэсах гарантаваньня бясьпекі грамадзянаў СССР пры стыхійных бедствах, буйных аварыях або катастрофах, эпізаотыях, а таксама пры масавых беспарадках». Такім чынам, законных падставаў для ўвядзеньня надзвычайнага становішча ў Беларусі й СССР няма. Разам з тым, праз 10 гадзін пасьля абвяшчэньня надзвычайнага становішча, адсутнічае Заява Прэзідэнта СССР М.С.Гарбачова аб добраахвотным складаньні сваіх паўнамоцтваў і мэдычнае заключэньне аб стане

(Працяг на стар. 2)

### СА ЗВАРОТУ БЮРО ЦК КП БЕЛАРУСІ

(Падаем правапісам арыгіналу). Краіна ўступіла ў новую, надзвычай адказную паласу выпрабаванняў. У выніку рада прычынаў перабудова, пачатая ў красавіку 1985 г. у інтарэсах народа зайшла ў тупік. Паўсюдна парушаны эканамічныя сувязі, паралізаваны вядучыя галіны народнай гаспадаркі, на грані развалу знаходзіцца сельская гаспадарка.

Страчана кіруемасць грамадствам, знізілася дысцыпліна, небывала ўзрасла злачыннасць, бушуе полымя палітычнага процівборства. Узрастае небяспека грамадзянскай вайны пры відавочнай слабасці выканаўчай улады.

Такое развіццё падзеяў вымусіла кіраўніцтва краіны прыняць неадкладныя меры па пераадоленню навісшай небяспекі. Створаны Дзяржаўны камітэт па надзвычайнаму становішчу, да якога перайшла ўся паўната ўлады. («Звязда», 21.8.1991)

### СА ЗВАРОТУ ПРЭЗІДЫЮМУ ВС БССР

(Падаем правапісам арыгіналу). Прэзідыюм Вярхоўнага Савета Беларускай ССР заяўляе, што для нас цяпер самае галоўнае – захаваць цэласнасць дзяржавы, стабілізаваць і ўмацаваць эканоміку, узьняць міжнародны аўтарытэт краіны, не дапусціць аслаблення яе абараназдольнасці. Неабходна і ў далейшым улічваць думку народа, які выказаў на рэферэндуме сваю падтрымку заключэнню саюзнага дагавора. Толькі сумеснымі намаганнямі можна пераадолець існуючыя цяжкасці, у тым ліку вынікі чарнобыльскай катастрофы. («Народная газета», 21.8.1991)

ДАКУМЭНТЫ

## ТАТАЛІТАРЫСЦКІ ПРЫЁМ ЗАХОПУ ЎЛАДЫ

(Працяг са стар. 1)

яго здароўя. У сувязі з гэтым, законным кіраўніком Саюзу ССР застаецца Прэзідэнт СССР, які можа быць адхілены ад свае пасады ня менш як 2/3 галасоў ад агульнае колькасьці Зьезду народных дэпутатаў СССР.

Зьдзейсьненым 18–19 жніўня г.г. актам бальшавікі-камуністы яшчэ раз пацьвярджаюць сваю прыхільнасьць да гвалтоўнага вырашэньня сацыяльных і іншых праблемаў. Мы маем дачыненьне з таталітарысцкімі прыёмамі захопу ўлады.

Дэпутаты ад Апазіцыі ў Вярхоўным Савеце Беларускай ССР заклікаюць усіх грамадзян Беларусі захоўваць арганізаванасьць, вытрымку й дысцыпліну, выконваць толькі рашэньні куанстытуцыйных органаў улады. Заклікаем нашых выбаршчыкаў праводзіць, пачынаючы з 20 жніўня, пасьля 18 гадзін, сустрэчы з народнымі дэпутатамі ўсіх узроўняў і запатрабаваць спыненьня дзейнасьці незаконнага «Дзяржаўнага Камітэту па надзвычайным становішчы» ў СССР.

Мы зьвяртаемся да вайскоўцаў Савецкіх Узброеных Сіл, супрацоўнікаў МУС і КДБ БССР з заклікам захоўваць вернасьць Канстытуцыі Беларускай ССР і Саюзу ССР, свайму службоваму абавязку, пазьбягаць ужываньня сілы й ўстрымацца ад падтрымкі неканстытуцыйных органаў.

Апазіцыя ў Вярхоўным Савеце Беларускай ССР патрабуе тэрміновага скліканьня надзвычайнае сэсіі ВС БССР для абмеркаваньня становішча, што склалася, і прыняцьця неабходных мераў.

**Я.Новікаў, Л.Баршчэўскі, Л.Зданевіч, В.Голубеў, І.Гермянчук, Б.Гюнтар, А.Трусаў, М.Крыжаноўскі, С.Папкоў, Я.Цумараў, Г.Грушавы, Ю.Беленькі, Л.Дзейка, У.Новік, У.Станкевіч, У.Заблоцкі, С.Навумчык, Г.Сямдзянава, З.Пазьняк, В.Какоўка, С.Слабчанка, П.Садоўскі.**

19.8.1991

## «ГКЧП» – САМАЗВАНЦЫ

**Заява народных дэпутатаў Менскага гарадзкога Савету народных дэпутатаў**

Паважаныя Менчукі!

Рэакцыйныя сілы, баючыся незваротнасьці дэмакратычных зьменаў, перайшлі ў контрнаступ. Выкарыстоўваючы антыканстытуцыйныя, змоўніцкія мэтады, самазваны камітэт адхіліў ад улады законна выбранага Прэзідэнта краіны М.С.Гарбачова й абвяўіў аб увядзеньні надзвычайнага становішча. Гэта азначае канец курсу на дэмакратычныя рэформы й, у канчатковым выніку, прывядзе краіну да поўнага эканамічнага краху. Падобныя антыканстытуцыйныя дзеяньні фактычна зьяўляюцца дзяржаўным пераваротам і ўяўляюць велізарную небясьпеку для краіны, бо могуць прывесьці да ўзьнікненьня грамадзянскае вайны.

Мы, народныя дэпутаты Менгарсавету, заяўляем свой пратэст у сувязі зь незаконным адхіленьнем з пасады Прэзідэнта М.С.Гарбачова, выказваем сваю заклапочанасьць ягоным лёсам.

Заклікаем жыхароў г. Менску захоўваць вернасьць законна выбраным органам улады й дамагацца ўсімі канстытуцыйнымі метадамі спыненьня дзейнасьці Дзяржаўнага камітэту па надзвычайным становішчы.

Дэпутаты Менскага гарадзкога Савету народных дэпутатаў:

**П.Волкаў, М.Бусьнюк, А.Жучкоў, І.Каляева, Г.Вашчанка, Л.Навуменка, Я.Кушмар, В.Чарняўскі, А.Завадзкі, Г.Усаў, М.Фрыдлянд, Г.Куневіч, А.Жызьнеўскі, М.Стральцоў, А.Кулікоў, М.Бушыла, В.Пракаповіч, М.Рассолька, Д.Жданюк, М.Кобаса, М.Пліска, А.Гурыновіч, У.Несьцер, А.Бяляцкі, С.Дуброўскі, А.Суша, М.Пугачоў, А.Дабравольскі (народны дэпутат СССР), Г.Стэльмах, А.Бабак, У.Мацяш.**

## ПУТЧЫСТЫ НЕ ПАВІННЫ МЕЦЬ ПАДТРЫМКІ

**Народныя дэпутаты БССР З.Пазьняк, В.Голубеў, Я.Новікаў, Б.Гюнтар, С.Папкоў, М.Крыжаноўскі, Л.Дзейка, М.Сукач накіравалі Старшыню Камітэту дзяржаўнай бясьпекі БССР сп. Э.Шыркоўскаму й Міністру ўнутраных справаў БССР сп. Ул.Ягораву звароты наступнага зьместу:**

Спроба антыканстытуцыйнага ваеннага перавароту, зробленая ў ноч з 18 на 19 жніўня гэтага году групаю палітычных авантурыстаў у Маскве, накіраваная супраць дэмакратыі, законных органаў улады й суверэнітэту рэспублік, зьяўляецца дзяржаўным злачынствам. Безадказныя дзеяньні путчыстаў у СССР не павінны мець аніякае падтрымкі на Беларусі. Усе іхнія распараджэньні зьяўляюцца незаконнымі й не павінны выконвацца ніякімі органамі ўлады Беларускай ССР.

Мы заклікаем Вас праявіць дзяржаўную мудрасьць, вытрымку, вернасьць Беларускай Рэспубліцы, не прымаць ніякіх патрабаваньняў і загадаў так званага Камітэту па надзвычайным становішчы, выконваць законы й Канстытуцыю БССР.

## АПОШНЯЯ ФАЗА ІСНАВАНЬНЯ ІМПЭРЫІ

**Зварот кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», Нацыяналь-дэмакратычнай партыі Беларусі, Беларускай Сацыяль-дэмакратычнай Грамады, Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, Менскага гарадзкога страйкаму (стачкома)**

19 жніўня адбылася спроба антыканстытуцыйнага захопу ўлады ў Савецкім Саюзе й зьмяшчэньне Прэзідэнта Гарбачова нібыта «па стане здароўя». Пераварот учыніла савецкая камуністычная й ваенна-прамысловая намэнклятура. Створана хунта пад назваю «дзяржаўны камітэт па надзвычайным становішчы», куды ўвайшлі Янаеў, Язаў, Кручкоў, Пуга, Паўлаў, Бакланаў, Старадубцаў, Цізякоў – найбольш кансэрватыўныя прадстаўнікі кіраўніцтва КПСС.

Пераварот хочуць зрабіць людзі ўчарашняга дня, дзеячы без пэрспэктывы. Антыканстытуцыйны захоп улады ў Савецкім Саюзе кансэрватыўнымі сіламі стварае пагрозу дэмакратыі, свабодзе й сувэрэнітэту рэспублік. Такі пaварот падзеяў – тыповы для канаючых рэжымаў і паміраючых імпэрыяў. Гэтая апошняя фаза іхняга існаваньня, аднак, самая небясьпечная. Таму патрэбныя вытрымка, упэўненасьць у будучыні й разважлівасьць, каб годна прайсьці празь небясьпечны апошні пэрыяд трываньня імпэрыі.

Ня можа быць ніякае веры ніякім абяцаньням путчыстаў. Будучы й раней пры ўладзе, яны давялі народ да беднасьці, а эканоміку – да краху.

Мы, людзі Беларусі, павінны памятаць, што імпэрыя КПСС ня мае ніякіх правоў на нашае жыцьцё, нашую гаспадарку, нашую тэрыторыю й наш народ. Нельга прызнаваць і выконваць распараджэньні бальшавіцкіх змоўшчыкаў, якія абапіраюцца на бясправаўе й грубую ваенную сілу.

Дзейнасьць самазванага «прэзідэнта» і яго супольнікаў не павінна распаўсюджвацца на тэрыторыю сувэрэннае Беларусі. Калі Прэзідыюм Вярхоўнага Савету БССР ня прыме адпаведнае заявы, ня скліча нечарговае сэсіі ВС БССР – ягоныя ўдзельнікі назаўсёды пакрыюць сябе ганьбаю здраднікаў і паслугачоў хунты.

Кожны чалавек або дзяржаўны орган, які падтрымлівае незаконны, злачынны «камітэт» і выконвае яго распараджэньні, нясе крымінальную адказнасьць. Разам з тым, усе дзеяньні народу ў абарону сваіх правоў, законаў і Канстытуцыі Беларускай Рэспублікі, накіраваныя супраць путчыстаў, зьяўляюцца законнымі.

Людзі ў розных рэспубліках падымаюцца на барацьбу са злачыннай хунтаю. Мы заклікаем да дзейснае салідарнасьці ўсіх, каму дарагая свабода й дабро народаў, падтрымліваем заклік Барыса Ельцына распачаць бестэрміновы страйк на рабочых мейсцах.

Усе дэмакратычныя сілы Беларусі, усе людзі добрае волі павінны зараз аб'яднацца на адной платформе – платформе абароны дэмакратыі й незалежнасьці Беларусі.

Жыве Беларусь!

19 жніўня 1991

## САДЗЕЯНЬНЕ ХУНЬЦЕ – ЦЯЖКОЕ ЗЛАЧЫНСТВА

**Зварот да народных дэпутатаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў і ведамстваў Беларускай ССР**

20 жніўня 1991

У сувязі са спробаю антыканстытуцыйнага захопу ўлады ў СССР у ноч з 18 на 19 жніўня гэтага году групаю кансэрватыўнага камуністычнага кіраўніцтва дэпутацкая Апазіцыя БНФ у Вярхоўным Савеце БССР зьвяртаецца да народных дэпутатаў усіх узроўняў, да кіраўнікоў прадпрыемстваў і ведамстваў з заклікам выконваць Канстытуцыю й законы Беларускай ССР.

Дзеяньні групы путчыстаў у СССР зьяўляюцца крымінальным злачынствам, а створаны імі самазваны «Камітэт па надзвычайным становішчы» – антызаконным. Таму ніякія патрабаваньні й распараджэньні змоўшчыкаў з «Камітэту» не павінны прымацца пад увагу й, тым больш, выконвацца на тэрыторыі Беларусі. Выкананьне гэтых распараджэньняў можа расцэньвацца як садзеяньне дзяржаўным злачынцам.

Заклікаем народных дэпутатаў усіх узроўняў, кіраўнікоў прадпрыемстваў і ведамстваў Беларускай ССР разам з усімі людзьмі добрай волі адстаяць сувэрэнітэт Рэспублікі, правы чалавека, законы й дэмакратычныя пераўтварэньні на Беларусі.

**Дэпутаты Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце БССР:**

**З.Пазьняк, В.Голубеў, У.Заблоцкі, В.Зяленін, С.Папкоў, С.Навумчык, У.Станкевіч, А.Трусаў, Б.Гюнтар, Л.Дзейка, Л.Баршчэўскі, Я.Цумараў.**

# Кіраўніцтва РСФСР супраць «ГКЧП»

## К гражданам России

В ночь с 18 на 19 августа 1991 года отстранён от власти законно избранный Президент страны.

Какими бы причинами ни оправдывалось это отстранение, мы имеем дело с правым, реакционным, антиконституционным переворотом.

При всех трудностях и тяжелейших испытаниях, переживаемых народом, демократический процесс в стране приобретает всё более глубокий размах, необратимый характер. Народы России становятся хозяевами своей судьбы. Существенно ограничены бесконтрольные права неконституционных органов, включая партийные. Руководство России заняло решительную позицию по Союзному Договору, стремясь к единству Советского Союза, единству России. Наша позиция по этому вопросу позволила существенно ускорить подготовку союзного договора, согласовать его со всеми республиками и определить дату его подписания – 20 августа с.г.

Такое развитие вызывало озлобление реакционных сил, толкало их на безответственные, авантюристические попытки решения сложнейших политических и экономических проблем силовыми методами. Ранее уже предпринимались попытки осуществления переворота.

Мы считали и считаем, что силовые методы неприемлемы. Они дискредитируют СССР перед всем миром, подрывают наш престиж в мировом сообществе, возвращают нас к эпохе холодной войны и изоляции Советского Союза от мирового сообщества.

Все это заставляет нас объявить незаконным пришедший к власти так называемый комитет. Соответсвенно объявляем незаконными все решения и распоряжения этого так называемого комитета.

Уверены, органы местной власти будут неукоснительно следовать конституционным Законам и Указам Президента РСФСР.

Призываем граждан России дать достойный ответ путчистам и требовать вернуть страну к нормальному конституционному развитию.

Безусловно необходимо обеспечить возможность Президенту страны ГОРБАЧЁВУ выступить перед народом. Требуем немедленного созыва Чрезвычайного Съезда народных депутатов СССР.

Мы абсолютно уверены, что наши соотечественники не дадут утвердиться произволу и беззаконию потерявших всякий стыд и совесть путчистов. Обращаемся к военнослужащим с призывом проявить высокую гражданственность и не принимать участия в реакционном перевороте.

До выполнения этих требований призываем к всеобщей бессрочной забастовке.

Не сомневаемся, что мировое сообщество даст объективную оценку циничной попытке правого переворота.

**Президент РСФСР** **Б.Н.Ельцин**
**Председатель СМ РСФСР** **И.С.Силаев**
**И.о. Председателя Верховного Совета РСФСР** **Р.И.Хасбулатов**
19 августа 1991 года, 9-00 утра

## Президент Российской Советской Федеративной Социалистической Республики
## Указ №59

от 19.VIII.91 г.

В связи с действиями группы лиц, объявивших себя Государственным комитетом по чрезвычайному положению, **постановляю:**

1. Считать объявление Комитета антиконституционным и квалифицировать действия его организаторов как государственный переворот, являющийся ничем иным, как государственным преступлением.

2. Все решения, принимаемые от имени так называемого комитета по чрезвычайному положению, считать незаконными и не имеющими силы на территории РСФСР. На территории Российской Федерации действуют законно избранная власть в лице Президента, Верховного Совета и Председателя Совета Министров, всех государственных и местных органов власти и управления РСФСР.

3. Действия должностных лиц, исполняющих решения указанного комитета, подпадают под действие уголовного кодекса РСФСР и подлежат преследованию по закону.

Настоящий Указ вводится в действие с момента его подписания.

**Президент РСФСР** **Б.Ельцин**

## Постановление
### Президиума Верховного Совета РСФСР О созыве чрезвычайной сесии Верховного Совета РСФСР

В ночь с 18 на 19 августа политическая обстановка в нашей стране коренным образом изменилась в результате антиконституционного переворота.

В соответствии с Конституцией СССР чрезвычайное положение могло быть введено Верховным Советом СССР или Президентом СССР с согласия республики, а при отсутствии такого согласия – решением Верховного Совета СССР, принятым большинством, не менее двух третей от общего числа его членов. Поскольку при введении чрезвычайного положения была нарушена Конституция СССР, постольку действия так называемого Чрезвычайного комитета являются государственным переворотом.

Поставлено под вопрос нормальное функционирование конституционных органов власти РСФСР

В сложившейся ситуации Президиум Верховного Совета РСФСР постановляет:

1. Созвать внеочередную сессию Верховного Совета РСФСР 21 августа в 11.00 в Доме Советов РСФСР с повесткой дня «О политической ситуации в РСФСР, сложившейся в результате государственного переворота».

2. Исполнение решений так называемого Чрезвычайного комитета будет квалифицироваться как участие в совершении государственного преступления со всеми вытекающими последствиями.

**Первый заместитель Председателя**
**Верховного Совета РСФСР**
**Р.И.Хасбулатов**

Москва, Дом Советов РСФСР
19 августа 1991 года
№1624-1

## Указ
### Президента Российской Советской Федеративной Социалистической Республики

Предпринята попытка государственного переворота, отсронён от должности Президент СССР, являющийся Верховным Главнокомандующим Вооружённых Сил СССР. Вице-президент СССР, премьер-министр СССР, Председатель КГБ СССР, министры обороны и внутренних дел СССР вошли в антиконституционный орган, совершив тем самым государственное преступление. В результате этих действий деятельность законноизбранной власти Союза ССР оказалась парализованной.

В сложившейся чрезвычайной ситуации **постановляю:**

1. До созыва внеочередного Съезда народных депутатов СССР все органы исполнительной власти Союза ССР, включая КГБ СССР, МВД СССР, Министерство обороны СССР, действующие на территории РСФСР переходят в непосредственное подчинение избранного народом Президента РСФСР.

2. Комитету государственной безопасности РСФСР, Министерству внутренних дел РСФСР, Государственному комитету РСФСР по оборонным вопросам временно осуществлять функции соответствующих органов Союза ССР на территории РСФСР.

Все территориальные и иные органы МВД, КГБ и Министерство обороны на территории РСФСР обязаны немедленно исполнять указы и распоряжения Президента РСФСР, Совета Министров РСФСР, приказы КГБ РСФСР, МВД РСФСР, Государственного комитета РСФСР по оборонным вопросам.

3. Всем органам, должностным лицам, гражданам РСФСР принять незамедлительные меры к тому, чтобы исключить выполнение любых решений и распоряжений антиконституционного Комитета по чрезвычайному положению.

Должностные лица, выполняющие решения указанного комитета, отстраняются от исполнения своих обязанностей в соответствии с Конституцией РСФСР. Органам Прокуратуры РСФСР немедленно принять меры для привлечения указанных лиц к уголовной ответственности.

**Президент РСФСР** **Б.Ельцин**

Москва, Кремль
19 августа 1991 года
№61

